*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 44 (256)

1 лістапада 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

З МАРАЙ ПРА НЕЗАЛЕЖНУЮ АЙЧЫНУ Стар. 4.

ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС Стар. 7.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **З 21 ПА 27 КАСТРЫЧНІКА ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ЗНАХОДЗІЎСЯ Ў ЗША**, дзе прыняў удзел ва ўрачыстасцях з нагоды 50-гадовага юбілею ААН. Выступаючы на спецыяльным урачыстым пасяджэнні Генеральнай Асамблеі, ён, у прыватнасці, сказаў: «Мы не зможам пагадзіцца з тымі, хто ставіць пад сумненне ролю ААН у будучым свеце. Я, малады лідэр маладой дзяржавы, не прымаю саму думку аб магчымай смерці ААН...»

○ ***КАМІСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННЮ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ ПАДРЫХТАВАЛА*** *законапраект «Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь». У ім, у прыватнасці, прадугледжваецца забеспячэнне роўных магчымасцей для арганізацыі і развіцця разнастайных па тэматыцы і формах уласнасці гэтых устаноў культуры.*

○ **ПА ЗВЕСТКАХ ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ** кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вылучана 935 чалавек па 141 акрузе. Найбольшай папулярнасцю ў кандыдатаў карыстаецца Віцебская вобласць, найменшай — Брэсцкая. Што датычыцца канкрэтных акруг, то больш за ўсё вылучаецца па Акадэмічнай № 242 г. Менска — 16 чалавек, а вось у Лунінецкай № 25 і ў Брэсцкай — Заводскай № 4 — усяго па два чалавекі.

○ ***НА ФІЛФАКУ БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА ПРАЙШЛА МІЖНАРОДНАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ НА ТЭМУ «СЛАВЯНСКІЯ ЛІТАРАТУРЫ Ў КАНТЭКСЦЕ ЛІТАРАТУР СУСВЕТНЫХ».*** *Плануецца, што на пачатку наступнага года ўсе матэрыялы канферэнцыі ўбачаць свет у асобным зборніку.*

○ **АДБЫЎСЯ IX З'ЕЗД ЖУРНАЛІСТАЎ БЕЛАРУСІ.** Яго кіраўніком зноў абраны Леанід Екель.

○ ***У БЕЛАРУСІ НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ*** *налічваецца 126 тысяч чалавек, якія лічацца ўдзельнікамі ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.*

○ **У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ** чарговы конкурс гарманістаў і частушачнікаў «Менскі гармонік». Арганізавалі і правялі свята — Цэнтр адраджэння і развіцця беларускай культуры, Мінгарвыканкам.

○ ***УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*** *Васіль Стаўроў назначаны першым намеснікам міністра адукацыі і навукі, а Уладзімір Валадзько і Генадзь Дылян — намеснікамі міністра адукацыі і навукі.*

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!** З 20 кастрычніка пачалася падпіска на перыядычныя выданні нашай краіны на першае паўгоддзе 1996 года. На «Наша слова» можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Тэрмін падпіскі працягнецца да 1 снежня, але раім Вам аформіць падпіску на «Наша слова» неадкладна — час вельмі хуткабежны. Кошт «Нашага слова» на 1 месяц — 3250 рублёў, на 3 месяцы — 9750 рублёў, на 6 месяцаў — 19500 рублёў. Наш індэкс 63865.

# Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь узгадвае правы беларусаў на свабоду слова і атрыманне поўнай і своечасовай інфармацыі

Разгледзеўшы заяву галоўнага рэдактара газеты «Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча аб адмове друкарні тыражаваць нумар газеты па распараджэнню начальніка Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта У.Замяталіна і экспертнае заключэнне Міністэрства юстыцыі, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека прызнала санкцыі супраць «Народнай волі» (і падобныя захады да «Белорусской деловой газеты» і «Імя») не адпавядаючымі Канстытуцыі і Закону аб друку. Бо, падкрэсліваецца ў заключэнні Камісіі, артыкул 16 Закона адназначна гаворыць аб тым, што «дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі можа быць прычынена ці спынена толькі па рашэнню заснавальніка або судом у парадку грамадзянскага судаводства па іску рэгіструючага органа ці пракурора».

Камісія таксама адзначыла, што падзяляе заяву старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні, які падкрэсліў, што «дзяржаўная ўлада павінна дазволіць крытыкаваць сябе, свае інстытуты і службовых асоб, павінна ахоўваць права на іншадумства».

Свабодная дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі — гэта неабходная ўмова для ўсталявання незалежнай, дэмакратычнай дзяржавы і захавання ў поўным аб'ёме правоў чалавека і грамадзяніна, падкрэсліваецца ў рашэнні Камісіі.

**Ул.Ас.**

***Прэс-канферэнцыі***

# Мечыслаў Грыб: вынікі рэферэндуму павінен яшчэ зацвердзіць «новы» Вярхоўны Савет

У кастрычніку ў Санкт-Пецярбурзе адбылося чарговае пасяджэнне Савета Міжпарламенцкай Асамблеі (МПА) дзяржаў-удзельніц Садружнасці незалежных дзяржаў. У гэтым аўтарытэтным сходзе, а ў ім бралі ўдзел парламенцкія дэлегацыі Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Казахстана, Кіргізіі, Малдовы, Расіі, Таджыкістана, была прадстаўлена і Беларусь. Дэпутацыю нашай краіны, натуральна, узначальваў Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб.

Пасля вяртання ў Менск Мечыслаў Грыб у памяшканні Вярхоўнага Савета наладзіў прэс-канферэнцыю, каб з дапамогаю журналістаў зрабіць справаздачу перад народам пра ўдзел беларускай дэлегацыі ў працы.

У сваім уступным слове Старшыня ВС паведаміў, што сярод шматлікіх пытанняў, прысвечаных эканамічнаму развіццю краін-удзельніц Садружнасці, Міжпарламенцкая Асамблея ў мэтах аховы сацыяльных правоў грамадзян прыняла Зварот да парламентаў аб стварэнні ў дзяржавах СНД эфектыўнай сістэмы сацыяльнай падтрымкі адной з найменш абароненых у грамадстве груп насельніцтва — працаўнікоў адукацыі і навукі... МПА намеціла правесці міжнародную канферэнцыю «Гісторыя парламентарызму ў дзяржавах-удзельніцах Садружнасці незалежных дзяржаў: да 90-годдзя з дня пачатку работы Дзяржаўнай думы Расіі... »

Мечыслаў Грыб паведаміў журналістам, што дэпутацыю з Беларусі сустракалі ў Санкт-Пецярбурзе як роўную сярод роўных. Калі ж прадстаўнікі іншых дзяржаў са сродкаў масавай інфармацыі даведаліся аб адносінах беларускага Прэзідэнта да свайго «старога» Вярхоўнага Савета, то вельмі здзівіліся гэткай акалічнасці.

Але асноўная гаворка на згаданай прэс-канферэнцыі ўсё ж выйшла за межы тэмы ўдзелу парламентарыяў у паседжанні МПА. Адказваючы на шматлікія пытанні вельмі вялікай групы журналістаў з беларускіх і замежных СМІ, Мечыслаў Грыб прызнаў, што Указы кіраўніка дзяржавы парушаюць Канстытуцыю, што ўсялякія спробы дамовіцца з шаноўным Прэзідэнтам не прывялі хаця да якіх-небудзь вынікаў у сэнсе нармальнага суіснавання выканаўчай і заканадаўчай галінаў улады. Дзеянні першай непрадказальныя, і, напрыклад, Старшыня Вярхоўнага Савета не ведае, што можа быць заўтра і паслязаўтра ў краіне.

Карэспандэнт «Нашага слова» задаў пытанне адносна зацвярджэння на чарговай сесіі вынікаў травеньскага рэферэндуму наконт гэтак званага раўнапраўя беларускай і расійскай моў і змены нацыянальнай сімволікі.

Адказваючы, Мечыслаў Грыб зазначыў, што гэта справа хутчэй за ўсё будзе разглядацца Вярхоўным Саветам новага склікання. І гэта не дзіва, калі ўлічыць, што цяпер сесію немагчыма склікаць — пэўная частка дэпутатаў аказалася запалоханаю магчымымі санкцыямі за ўдзел у рабоце парламента. Тым не менш, Мечыслаў Грыб зазначыў, што зацвярджаць моўнае пытанне дэпутатам будзе нялёгка, бо спатрэбіцца ўносіць адпаведную папраўку ў той артыкул Канстытуцыі, дзе гаворыцца пра дзяржаўнасць беларускай мовы. Мечыслаў Грыб яшчэ раз паўтарыў тэзіс, які выказаў з трыбуны апошняга з'езда ТБМ імя Ф.Скарыны: «Няма мовы — няма нацыі, няма нацыі — няма дзяржавы». Ён даў высокую адзнаку людзям, якія ў сённяшніх умовах ратуюць роднае слова.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## Дзе? Што?

## Каласавіны-95

І сёлета, паводле добрага звычаю, адбудуцца ўрачыстасці, прысвечаныя дню нараджэння нашага любімага паэта Якуба Коласа. «Каласавіны-95» пачнуцца ў Менску. Як паведаміла нам дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Мікалаеўна Камароўская, 1 лістапада да іх прыйдуць выхаванцы дзіцячых садкоў на свята «Казкі жыцця». 3 лістапада там жа ў музеі пройдзе навуковая канферэнцыя. А наступным днём яе ўдзельнікі ды госці паедуць у родныя мясціны Якуба Коласа. Там будзе наладжана літаратурнае свята ў Смольні: 85 гадоў таму ў гэтую леснічоўку пераехала сям'я Міхала Міцкевіча.

**З.С.**

## Даты і падзеі ў лістападзе

**1 лістапада** — 70 гадоў з дня нараджэння Клаўдзіі Каліны, беларускай пісьменніцы.

**3 лістапада** — 150 гадоў з дня нараджэння З.Глогера (1845—1910) польскага археолага, этнографа, гісторыка, фальклярыста, даследчыка культуры Беларусі.

**11 лістапада** — 120 гадоў з дня нараджэння А.Ф.Паўловіча (1875—1951), беларускага паэта-сатырыка і драматурга.

70 гадоў з дня нараджэння А.І.Чабярук, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**12 лістапада** — 110 гадоў з дня нараджэння М.А.Грамыкі (1885—1969), беларускага пісьменніка і вучонага.

75 гадоў з дня нараджэння А.Я.Макаёнка (1920—1982), беларускага драматурга, народнага пісьменніка Беларусі.

**14 лістапада** — 95 гадоў з дня нараджэння Н.Ф.Чарнушэвіча (1900—1967), беларускага паэта.

90 гадоў з дня нараджэння Міхася Васілька (М.В.Касцевіча; 1905—1960), беларускага паэта.

75 гадоў з дня пачатку (1920) Слуцкага паўстання (скончана 28 снежня 1920 г.).

З рэдакцыйнай пошты

# Важнейшая прыкмета дзяржавы — яе мова

У сярэднявеччы беларусы называлі сябе рускімі або ліцвінамі (не літоўцамі), які мову сваю — рускай, хоць гаворка жыхароў мела ярка выражаныя сучасныя беларускія асаблівасці, а пісьмовая мае назву «старабеларуская». Так, у актавым запісе Падуанскага універсітэта Ф.Скарына названы русінам. Ён жа мову перакладаў Бібліі лічыў рускай: «Предъсловие... во всю Библию рускаго языка»... «Прото ж я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарских науках доктор... казал есми тиснути книгу святога Иова руским языком богу ко чти и людем постолитым к научению». Тут, як бачым, царкоўнаславянская мова моцна змешана з беларускаю. Падобныя, быццам бы, супярэчнасці ёсць у Статуце ВКЛ 1588 года: «А писаръ земски маеть поруску литерами и словы рускими вси листы выписы и позвы писати а не иншымъ языкомъ и словы». Але ўвесь Статут гэты, як і дзве яго папярэднія рэдакцыі, напісаны прыгожай старабеларускай мовай, што добра бачна з прыведзенай цытаты. Потым назву «руская мова» перахапіла Маскоўская дзяржава.

Даўнейшая наша гісторыя неяк пераклікаецца з сучаснасцю, толькі сёння складаецца адваротная сітуацыя: мы маем беларускую назву дзяржавы, цэлага народа і яго мовы, але існаванне самой мовы карэннага насельніцтва пад пагрозаю знікнення, калі не будзе ёй моцнай падтрымкі. Такой апорай для беларускай мовы быў статус адзінай дзяржаўнай. На Беларусі расійская мова мела добрыя ўмовы: абавязкова вывучалася ў школах, шырока ўжывалася ў грамадстве, выконвала функцыю міжнацыянальнай. Патрэбы ў рэферэндуме не было. Толькі склалася становішча, калі мы маглі папракаць і крытыкаваць нашых дзяржаўных служачых і кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь, што гавораць на мове суседняй краіны і не збіраюцца пераходзіць на дзяржаўную беларускую, як таго патрабаваў Закон аб мовах.

Але пасля падтрымкі часткі народа на рэферэндуме ініцыятывы прэзідэнта аб наданні расійскай мове статуса другой дзяржаўнай усё расійскамоўнае наша кіраўніцтва нібыта мае падставы апраўдацца і вызваліцца ад неабходнасці ведаць ці вывучаць беларускую мову. Аднак у сапраўднасці сітуацыя не такая адназначная: па-першае, больш за 40 працэнтаў насельніцтва адзінай дзяржаўнай мовай прызнаюць па-ранейшаму толькі беларускую. Па-другое, калі чыноўнікі адмаўляюць беларускую, значыць, яны практычна парушаюць Канстытуцыю, Закон, бо беларуская мова па-ранейшаму застаецца адной з дзяржаўных, а гэта ўжо вельмі сур'ёзна, бо фактычна разбурае дзяржаўнасць.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
г.Ашмяны.

# ДЗЕ СУД, ЯКІ АБАРОНІЦЬ БЕЛАРУСА?

Што творыцца ў роднай Дзяржаве!

Што творыцца ў маёй роднай Беларусі..!

Здаецца ж, усё пачало ісці на лад, чыноўнікі пацiху пачалі наведваць курсы беларускай мовы, каб пераводзіць усю дакументацыю на родную мову, часцей пачала гучаць яна ў грамадскіх месцах, на вуліцы, на вакзалах, у тралейбусах і аўтобусах...

І на табе, як бомба, падкладзеная нашым прэзідэнтам, прымусова ім навязаны рэферэндум, антыканстытуцыйны, які не меў яшчэ задоўга да яго правядзення юрыдычнай сілы. І ўсе, хто быў настроены супраць беларускай культуры і мовы, залямантавалі ў адзін голас: «Не аддавайце дзяцей у беларускія школы, беларуская мова — мёртвая мова, на ёй нельга вывучыцца...»

У Гомелі пастараліся абклеіць ці не ўсе дамы ўлёткамі, што паўсюдна трэба ствараць расійскія класы і школы. І «сокалы Жырыноўскага», і прадстаўнікі СС (Славянскага Сабора) і іншая нечысць на нашай беларускай зямлі клеілі іх начамі на сценах, раскідвалі ў пад'ездах перад першым верасня...

Думаеце, гэтым зацікавілася міліцыя ці органы дзяржаўнай бяспекі, гарадскія ўлады? Не. Зрабілі выгляд, што нічога не бачаць. Што нічога страшнага ў генацыдзе беларускасці няма — ідзе натуральны працэс, народ «сказаў» сваё слова.

Дырэктары школ у Гомелі — амаль усе расійцы, як і загадчыкі аддзелаў адукацыі. Яны проста абрадаваліся, калі пачалася такая вакханалія з беларускай мовай.

А што рабіць тым дзецям, якія правучыліся і год, і два, і тры ў беларускіх класах, а потым іх пачалі зноў вяртаць пад расійскую мову? Ідзе ломка лёсаў, псіхікі, бязглузды ўціск і шальмаванне ўсяго, што звязана з адраджэннем...

У Гомелі, дзе больш як паўмільёна жыхароў, засталіся ўсяго дзве нацыянальныя школы. Дзве! Восем працэнтаў ад усіх першакласнікаў вучацца ў беларускіх класах. Восем! Ці не генацыд у маёй роднай Беларусі адбываецца? Ці мо ёсць іншае слова? Можа — вар'яцтва, самазабойства?! А яшчэ — дурдом!

Першага верасня паехаў у беларускую школу № 36, якой надалі статус нацыянальнай. У час пасяджэння, з нагоды зацвярджэння статуса, намеснік старшыні Савецкага райвыканкама Ю.Люкшын патрабаваў ад дырэктаркі Таццяны Антонаўны Цыганок: «Разговаривайте по-русски!». Як было стрымаць такі здзек, не ведаю. Абраза, за якую можна смела падаваць у суд. Толькі дзе той суд, які абараніў бы беларуса? Змоўчала, каб не сапсаваць справу. Здушыла свой гонар.

Абрадавала тое, што школа зрабіла свой штандар. Ён бел-чырвона-белы, з арнаментам, і з гербам сваім, які прыдумалі вучні і настаўнікі, правільней, з эмблемай. Як на маленькім востраве сярод вялікай расійскай багны адчуваў, дзе гучала і мова, і песні, і існаваў цёплы, родны, беларускі клімат...

Але не суніmaліся «жырыкі». Чуў, як пажылыя людзі з планкамі на грудзях бурчэлі: «Надо же, мужицкий язык пропагандируют. Мало зажимает президент их, белорусов...»

Божа, у якой краіне жывём! Пра што думаюць яны, ветэраны, нацэльваючы сваіх унукаў на расійскія кладкі? На тое, што дзяцей некалі могуць смела ўцягнуць у нейкую Чачню ці Афганістан, і ніхто тады гору не паможа. Не думаюць ці не хочуць думаць?

Звоняць ананімна дырэктарцы, пагражаюць, шлюць праклёны і мацюкі. Хто паможа дырэктару? Родная ўлада? Міліцыя? Хто?

Бацькі дзяцей сабраліся і напісалі зварот-дакумент, які мне хочацца прывесці поўнасцю:

*«Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі абласны выканаўчы камітэт, Савецкі раённы выканаўчы камітэт Гомеля, гарадскі выканаўчы камітэт горада Гомеля.*

*Аб становішчы спраў у сярэдняй школе № 36 горада Гомеля, якой нададзены статус нацыянальнай.*

*Мы, бацькі вучняў малодшых класаў СШ № 36 горада Гомеля, адчуваючы сябе адказнымі не толькі за здароўе сваіх дзяцей, але таксама і за маральна-псіхалагічны клімат школы, дзе яны будуць вучыцца не адзін год, воляй абставін вымушаны з усёй адказнасцю заявіць пра наступнае:*

*— мы рашуча выступаем супраць нагнятання напружанасці ў нацыянальным пытанні, супраць расколу нашых дзяцей па моўнаму прынцыпу;*

*— мы адправілі сваіх дзяцей у школу № 36 таму, што ведаем аб выдатнай якасці выхаваўчага і вучэбнага працэсу ў ёй, аб добрасумленных і таленавітых настаўніках;*

*— мы сцвярджаем, што дырэктар школы спадарыня Таццяна Антонаўна Цыганок — высокаадукаваны, інтэлігентны і таленавіты педагог, які не здольны тварыць злое, нечалавечае, і таму заклікаем Вас спыніць шальмаванне Настаўніка, Педагога, Чалавека, выдатніка народнай адукацыі, яна ўжо тры дзесяткі гадоў аддала школе, дзецям, іх выхаванню;*

*— сіламі калектыву і дырэктара, а гэтаксама і бацькоў, школа добра падрыхтавалася да вучэбнага года, ніякіх заўваг па арганізацыі вучобы і харчавання не было;*

*— мы заяўляем, што ўлёткі з заклікамі аб'явіць байкот СШ № 36, якімі быў абклеены ўвесь мікрараён напярэдадні першага верасня, не дасягнулі сваёй мэты — дзеці ў школу ўсё ж пайшлі;*

*— мы лічым такія выпады і прапаганду антыбеларускага настрою супраць законным дзеяннем, што распальвае міжнацыянальную варожасць і караецца па закону, а нам гарачая кропка замест школы не патрэбна;*

*— неабходна прызнаць права на існаванне ў нашым шматнацыянальным горадзе розных школ, у тым ліку, калі не ў першую чаргу, і нацыянальных — беларускіх школ і садкоў хаця б па 2—3 у кожным мікараёне, пры ўмове гатоўнасці педагагічнага калектыву — як у 36-й школе;*

*— мы ўпэўнены, што дзяржава, яе ўрад, як асноўны суб'ект захавання гісторыка-культурнай спадчыны (артыкул 15 Канстытуцыі РБ), павінен садзейнічаць захаванню нацыянальнай школы, бо нават і з улікам вынікаў рэферэндуму (арт. 17, 149 Канстытуцыі РБ) беларуская мова павінна быць і застаецца першай дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь;*

*— у нас няма сумнення, што дзеці з добрымі здольнасцямі незалежна ад нацыянальнасці будуць мець глыбокія веды па ўсіх прадметах, а таксама будуць вольна валодаць як беларускай, так і рускай мовай, таму што і рускай мове ў нашай школе ўдзяляецца дастаткова ўвагі».*

Пад Зваротам шмат подпісаў. Гэты дакумент можа стаць дакументам для любой школы нашай Дзяржавы.

Ні ў каго няма сумневу, што вернецца да нас Пагоня, бел-чырвона-белы штандар, мова, нацыянальны гонар за сваю Айчыну і Дзень незалежнасці стане сапраўдным Вялікім Святам Волі, але як усё тое будзе адбівацца на псіхалогіі дзіцяці? Чым яны вінаватыя, што бацькі і дарослыя дзядзькі гуляюць у непрыгожыя гульні, і нават нашае святое слова «спадар» прамаўляюць здзекліва?

Што мы робім? Мы калечым дзяцей і іх будучае. Калечым заўтрашні дзень нацыі. Хіба ж няўцям, што той, хто адчуў сябе беларусам, хто вольна загаварыў на сваёй роднай мове, ніколі не здрадзіць Айчыне, ні самому сабе, якія генацыдныя захады ні былі б зроблены.

...Сустрэў даўняга знаёмага Васіля Міхайлава. Засмучона сказаў:

— Дурдом, а не краіна. На сваёй радзіме я не маю права голасу. Дачка вучылася па-беларуску пяць гадоў, а ў гэтым годзе прымусова перавялі на чужую — расійскую. Дачка плача, нервуецца, не ведае, што рабіць. Хадзілі мы да дырэктара школы. Той у выканкам адправіў. Пайшлі ў выканкам, да «вертыкальшчыкаў». Выказалі сваю крыўду. А нам сказалі: лепей прамаўчаць. Дзе знайсці праўду ў сваёй роднай Краіне? Хто падкажа?

Чуваць стогн маёй Айчыны. Яе зноў топчуць і прымушаюць сагнуцца да зямлі. Ці будзем пакорліва маўчаць і цярпець здзек, ці будзем нешта рабіць, каб людзьмі звацца, каб нас паважалі іншыя народы і краіны?

Рабоў і манкуртаў, здраднікаў Радзімы ніхто не любіць ва ўсім свеце.

**Анатоль БАРОЎСКІ,**
**старшыня Гомельскай абласной Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.**

Меркаванні

# Пераможам у сабе раба

Па-першае, хачу адзначыць, што я не належу ні да якіх партыяў, рухаў, таварыстваў — я звычайны грамадзянін Беларусі. Толькі ёсць у мяне такая «загана»: не прымаю ўсё адразу на веру. Я спачатку разважаю, аналізую. Вось пра гэта: кепскі ці не для мяне, простага чалавека, як палітык, прыкладам, той жа Зянон Пазьняк?

Па характару сваёй працы я сустракаюся з рознымі людзьмі, і іншы раз заходзіць пра гэта гаворка.

«Я ненавіджу Пазьняка», — звычайна гаворыць нехта. «А за што?» — пытаюся. Гэтае простае пытанне звычайна прыводзіць у замяшанне палітычна слаба падкаванага «нядобразычліўца». Становіцца зразумелым, што гэта не яго меркаванне, а яно нейкім чынам уведзена звонку ў яго свядомасць. Калі чалавек трапляецца сумленны, ён пачынае ліхаманкава думаць: а сапраўды — як растлумачыць такую сваю пазіцыю? «А ён насаждает беларускі язык», — кажа нарэшце. «А вы беларус?» — пытаюся, і субяседнік пачынае разумець недарэчнасць свайго тлумачэння. Іншым разам на мяне сыплецца град і такіх «аргументаў»: «вот развалілі Савецкі Саюз, раней на зарплату можна было жыць і ўсё было ў магазінах, а цяпер панастроілі катэджаў і езьдзят на мерсэдэсах, развалілі эканоміку, стаят заводы». «Але ж прычым тут Пазьняк? — пярэчу я. — Яго і блізка не падпускалі да эканомікі і не падпускаюць цяпер. Так што развaліць эканоміку Пазьняк нават у прынцыпе не мог». «А чаму ён не жанаты?» — задавалася яшчэ адно ашаламляльнае пытанне. «А можа ён аднaлюб: любіць толькі Беларусь, — жартаваў я. — А то ў нас любяць сябе, любяць багацце, але мала хто любіць Радзіму». (Зразумела, што размова ішла да жаніцьбы Зянона Станіслававіча.)

«Усе яны страмяцца к уласці, — яшчэ адзін ляпеча. — Дай толькі Пазьняку ўласць, так ён увядзет у Беларусі каталіцызм, тут будзят запад».

Слухаю я гэты «детский лепет» такіх аматараў-палітыкаў і думаю: святая наіўнасць! Дык гэта ж добра, што такі сумленны і высокаадукаваны чалавек, як Пазьняк, імкнецца да ўлады. Што можна зрабіць для народа, не маючы ўлады? А наконт увядзення каталіцызму... Дзівакі-людзі! — яны перажылі бальшавізм, а баяцца каго? Папы Рымскага ці што? А каталіцызм — гэта ж таксама хрысціянства, як і праваслаўе. Бог увогуле адзіны ў сусвеце: яму моляцца і хрысціяне, і магаметане, толькі ў розных рэлігіях яго называюць па-свойму. Баяцца трэба не тых, хто верыць у Бога, а бязбожнікаў. Ды й Пазьняк не збіраецца нічога «ўводзіць»: ён жа за народаўладдзе!

Чамусьці нам, беларусам, прывіваюць страх менавіта перад Захадам: маўляў, вось прыйдзе і запануе тут. Незразумела толькі, чаму мы так баімся гэтага: Захад жа ўвогуле невядома збіраецца ці не збіраецца панаваць на Беларусі, а «ўсход» ужо даўно пануе. На Беларусі стаяць расійскія войскі і знаходзяцца на Беларусі расійскія ваенныя базы, збіраюцца будаваць новыя. Забруджваецца тэрыторыя, існуе пагроза ўцягнуцца ў якую-небудзь вайну. Вось і расійская мова пануе на Беларусі. А што гэтае панаванне за дзвесце гадоў добрага прынесла беларускаму народу? Нічога, акрамя гора і пакут.

На Захадзе дэмакратыя, дабрабыт, парадак, выконваюцца правы чалавека. На Усходзе ж таталітарызм, дэспатызм, «беспредел», неўтаймаванае злачынства. Нягледзячы на гэта, мы чамусьці баімся не таго, чаго сапраўды трэба баяцца. Вось што значыць прапаганда!

Дык чаго ж хоча Зянон Пазьняк? — задаваў я не раз сабе пытанне. — Пазьняк, як увасабленне пэўнага грамадска-палітычнага ды культурнага аб'яднання маіх суайчыннікаў? Як я разумею, гэта ў першую чаргу незалежнасці Беларусі. Незалежнасці не на словах, а на справе. А яшчэ — адраджэння нашых, беларускіх звычаяў, культуры, мовы. Чаму адраджэння? Таму што ў нас ужо ўсё было: і высокая культура, і даволі папулярная ў Еўропе мова, і прававая дзяржава па еўрапейскіх стандартах.

Тут зноў нам убіваюць у галовы: а бэнэфаўцы хочуць адгарадзіцца ад Расіі. Не! Як я іх разумею, пры сапраўднай незалежнасці будуць наладжаны цесныя і надзейныя кантакты з Расіяй, але — на аснове раўнапраўя і ўзаемнай выгады.

«Не з гэтага трэба было пачынаць, — гавораць аматары паразважаць «задним числом». — Трэба было пачынаць з эканомікі, а не з гэтых сімвалаў».

А Зянон Пазьняк выдатна зразумеў: падняць эканоміку на Беларусі зможа толькі свабодны народ, гаспадар на сваёй зямлі, з нацыянальнай ідэяй, з высокай нацыянальнай самасвядомасцю. Гэта адзіны надзейны шлях у цывілізаваны свет. Усе другія вядуць у рабства, да страты дзяржаўнасці. А што гэта так, пацвярджае само жыццё: мы не ідзём шляхам нацыянальнай годнасці, а эканамічныя справы нашы ідуць з кожным днём усё горш і горш.

А вось тое, што план, які прапануюць беларускія адраджэнцы, жыццяздольны, сведчыць тое, што некалькі краін, якія выкарысталі падобную праграму, ужо выйшлі з крызіснага стану і паспяхова развіваюцца — тая ж Прыбалтыка, Чэхія, Славакія.

Чаму ўсё ж упала папулярнасць бэнэфаўцаў і іх лідэра? Відавочна, таму, што яны гавораць народу праўду і заклікаюць працаваць дзеля незалежнасці. Праўда не заўсёды прыемная рэч, а праца для незалежнасці заўсёды цяжкая. Многія ж прывыклі да хлусні, мы ўжо дзеці хлусні, нам ужо падабаюцца тыя, што «лапшу на вушы вешаюць», крочыць па цярністаму шляху к свабодзе і незалежнасці? «Зачэм», калі ёсць такі лёгкі шлях у.. няволю!

«Зачэм» нам гэтая беларуская мова, «зачэм» нам гэтая гісторыя, «зачэм» нам гэтая беларуская культура, што ад гэтага зменіцца? — гавораць некаторыя. А справа ў тым, што ва ўсе часы на ўсёй зямлі йшла і йдзе барацьба за месца пад сонцам. І месца тое займаюць толькі такія народы, якія ганарацца сваім адметным — сваёй мовай, сваёй культурай, народы, у якіх багатая «радаслоўная» са старажытнай гісторыяй, з глыбокімі каранямі. А нам, як тым прыблудам без роду-племені, наканавана тады быць пад імі — пад радавітымі, у рабстве, у няволі. А шкада! Беларускі народ — як той прынц крыві каралеўскай, які выхоўваўся ў жабрацкай сям'і і нічога не ведае пра сваё каралеўскае паходжанне.

Паразважаем, што было б, калі б наш продак — князь Трайдзень, які княжыў з 1270 па 1282 год, 12 гадоў «не злазячы з каня», 12 гадоў у паходах, у барацьбе з ворагамі нашай роднай зямлі, сказаў у такім сэнсе: «зачэм»?

Тады было вельмі складанае становішча для нашых продкаў ліцвінаў. Калі б не іхняя мужнасць і асабіста князя Трайдзеня, то наш этнас быў бы паглынуты другімі народамі і перастаў існаваць. А гэта значыць, што не адбылася б знакамітая бітва пад Сінімі Водамі, у якой ліцвіны на чале з вялікім князем Альгердам у 1362 годзе перамаглі ардынцаў. Тады, у сваю чаргу, не магла б адбыцца Кулікоўская бітва 1380 года, тады не было б вызвалення Масковіі ад татара-мангольскага прыгнёту ў 1480 годзе, тады не было б Расіі, не было б і расійцаў.

А возьмем падзею мінулага стагоддзя — паўстанне нашых продкаў у 1863—1864 годзе пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Цяпер некаторыя гавораць: «зачэм» было гэтае паўстанне, што яно дало? Многае! І хоць паўстанне было жорстка задушана імперцамі, але яно дало магчымасць зразумець заваёўнікам, што ёсць такі народ — ліцвіны, што ён не скораны і з ім трэба лічыцца. Калі б не было паўстання Кастуся Каліноўскага, то дэнацыяналізацыя ў нашай краіне адбылася б даўно, яшчэ ў XIX стагоддзі. А так, хоць цяпер ідзе дэнацыяналізацыя ў Беларусі, але ж пакуль што ёсць у нас дзяржаўнасць, ёсць у нас прэзідэнт. Праўда, ён не такі патрыёт Беларусі, ці другімі словамі, — не такі беларускі нацыяналіст, як хацелася б, але ж пакуль што яшчэ жыве маці-Беларусь!

Што ж зрабіць, каб большасць нашага насельніцтва ўсвядоміла, што варта прыслухацца да голасу беларускіх патрыётаў і падтрымаць іх? Можа патрыётам часова, як раіць журналіст Віталь Цыганкоў, адысці ад сваіх прынцыпаў? Можа, як другія, паабяцаць народу залатыя горы, улічваючы, што народ наш так любіць салодкую хлусню?

Не! Не варта гэтага рабіць, беларускім патрыётам. Не трэба мяняць аблічча! Няхай нават цяпер іх не ўсе разумеюць, але за імі праўда, і гэта абавязкова будзе на карысць народу. Калі не цяпер, дык пазней, калі не сучаснікі, дык іх патомкі адчуюць перавагі нацыянальнага суверэнітэту, незалежнасці сваёй Радзімы.

**Яўген ФІЛІПОВІЧ,**
**інжынер-электрык.**
пас.Гарадзішча.

# Кангрэс заклікае да канкрэтных дзеянняў

*Мы апублікавалі рэпартаж пра II Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры, прысвечаны праблемам прэсы Рэспублікі Беларусь, які ладзіў Беларускі ПЭН-цэнтр. На чарзе была і публікацыя выніковых дакументаў гэтага аўтарытэтнага форуму. Але адбыўся IV з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, і нам давялося аддаць перавагу перш-наперш матэрыялам менавіта «свайго» з'езда.*

*Тым не менш, улічваючы важнасць прынятых дакументаў на ПЭН-цэнтраўскім кангрэсе, рэдакцыя друкуе іх у пераказе свайго спецыяльнага карэспандэнта.*

Мяркую, што амаль усе дакументы, прынятыя Другім Міжнародным кангрэсам у абарону дэмакратыі і культуры, маюць актуальнае значэнне ў сэнсе абароны ў Беларусі права Чалавека на свабоду слова наогул і абароны ў тым ліку яго права карыстацца ў жыцці беларускім словам. **Заява Другога Міжнароднага кангрэса Беларускага ПЭН-цэнтра ў сувязі з рэферэндумам 14 траўня 1995 года** тым часам зазначае:

**«... Ужо сам факт вынясення на плебісцыт пытанняў змены нацыянальнай сімволікі і ўвядзення расійскай мовы ў якасці другой дзяржаўнай сведчыць, што вярхоўная ўлада не лічыць клопат пра духоўныя каштоўнасці нацыі сваім абавязкам. Гэта пацвярджаецца і наступнымі дзеяннямі прэзідэнцкай улады, якая пачала выкарыстоўваць вынікі рэферэндуму ў сваіх інтарэсах, ігнаруючы неабходнасць іх зацвярджэння Вярхоўным Саветам краіны. Нягледзячы на тое, што значная частка электарату не падтрымала прэзідэнта (за змену дзяржаўнай сімволікі прагаласавала толькі каля паловы агульнага спісачнага складу выбаршчыкаў), рэферэндум быў абвешчаны поўнай перамогаю яго ініцыятара.**

**Непасрэдным наступствам рэферэндуму 14 траўня 1995 г. можа стаць рэзкае звужэнне выкарыстання беларускай мовы ва ўсіх сферах дзяржаўнай палітыкі, што ўжо назіраецца ў сістэме адукацыі. На практыцы ўвядзенне расійскай мовы як другой дзяржаўнай будзе замацоўваць рэальнае сёння нераўнапраўе беларускай мовы і спрыяць яе выцясненню, а значыць, будуць працягвацца русіфікацыя і дэнацыяналізацыя беларускага народа, якія праводзіліся ў Расійскай імперыі, а потым у СССР.**

**Такая небяспечная палітыка спараджае раскол у грамадстве і непазбежна ставіць нацыянальную інтэлігенцыю ў апазіцыю да ўлады.**

**Удзельнікі кангрэса выказваюць глыбокую трывогу за будучыню беларускай нацыянальнай культуры і лічаць, што заканадаўчая і выканаўчая ўлады Рэспублікі Беларусь павінны неадкладна зрабіць рашучыя захады дзеля захавання і развіцця нацыянальна-культурных каштоўнасцяў і найперш галоўнай з іх — беларускай мовы».**

Чаму ўвогуле стаў магчымым травеньскі рэферэндум 1995 года? Гэтую акцыю ўлад рэзалюцыя кангрэса **«Аб свабодзе і адказнасці СМІ»** характарызуе так:

**«Агульнапрынятае сусветным супольніцтвам разуменне дыялектычнай узаемасувязі і ўзаемазалежнасці свабоды і адказнасці, калі бязмежная свабода ў выяўленні сваіх адносін да падзей і распаўсюджванні наяўнай інфармацыі аб іх свядома ў рамках прынятых працэдур абмяжоўваецца паняццем адказнасці, а паняцце адказнасці, у сваю чаргу, дапаўняецца паняццем свабоды, у Беларусі ўспрымаецца па меншай меры своеасабліва, калі свабода слова і друку распаўсюджваецца на адных, пераважна блізкіх да ўладных структур грамадзян, а адказнасць за сказанае, апублікаванае, растыражаванае слова ўскладваецца на другіх, якія ў асноўным належаць да «апазіцыйнай меншасці» ці «беларускамоўнай» часткі насельніцтва».**

У дакуменце зусім справядліва гаворыцца, што ў краіне **«створана абуральная сітуацыя, калі свабодна могуць прапагандавацца шавіністычныя ідэі пад выглядам мадэрнізаванай ідэі «славянскага адзінства», адвергнутай усімі славянамі, заходнімі і ўсходнімі, свядома абуджацца ў народзе пачуцці варожасці, нянавісці да ўсіх іншадумаючых, а адказнасць за вынікі прапаганды насілля і гвалту «большасці» над «меншасцю» ўскладваецца на «меншасць», якая не згаджаецца і ніколі не згодзіцца з тым, што яе, як быдла, заганяюць у рэзервацыі для «беларускамоўных беларусаў», а нацыянальную культуру адцiскаюць на задворкі грамадскага сужыцця. Ганебная практыка шальмавання ўсіх, хто думае і робіць інакш, як здаецца ў дадзены момант «правільным» маючым уладу, ні да чаго добрага не прывядзе і не можа прывесці, бо ўсякае штучнае «абсяканне» каранёў, нібыта непатрэбных ці не вельмі патрэбных для «дрэва» і яго росквіту, вядзе ў выніку да яго засыхання, адпадзення асобных жыццёваважных «галін», да таго, што яно будзе нездольна вытрываць націск сусветных падзей і магчымых глабальных, у тым ліку і касмічных, катастроф».**

У гэтай рэзалюцыі ўдзельнікі Другога кангрэса не толькі выказалі свой рашучы пратэст супраць грубага парушэння існуючай раўнавагі паміж свабодай і адказнасцю, якое дапускаецца па ініцыятыве ўладных структур і прапагандуецца на старонках газет і часопісаў, СМІ, што фінансуюцца і падтрымліваюцца гэтымі структурамі, але зноў нагадалі, што **«Беларусь як суверэнная ўтварэнне павінна быць гарантам свабоднага развіцця культуры беларускага народа, павінна аказваць дзяржаўную, фінансавую і маральную падтрымку карэннаму насельніцтву ў яго духоўных памкненнях, у яго жаданні абапірацца ў сваім руху наперад на нацыянальныя традыцыі свайго народа, карыстацца беларускай мовай як крыніцай яго ведаў аб свеце і выразніцай яго настрою, надзей, свабоды думкі, без якой нават і свабода слова — пусты гук».**

Тыя, хто пісаў тэкст рэзалюцыі, вельмі вобразна сказалі:

**«Кангрэс звяртае ўвагу беларускай і сусветнай грамадскасці на гэты трывожны стан рэчаў, на агрэсіўнае ўварванне дзяржаўнага «спецназу» на «духоўную тэрыторыю» асобы. Парушэнні яе суверэннасці і замацаванне гэтых парушэнняў рознымі «ўказамі» могуць прывесці да поўнай рэстаўрацыі таталітарнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь».**

Нарэшце яшчэ адзін выніковы дакумент кангрэса. Ён падаецца цалкам. Гэта Дэкларацыя. У ёй гаворыцца:

**«ЗЫХОДЗЯЧЫ З ПРЫНЦЫПАЎ МІЖНАРОДНАГА ПЭН-КЛУБА І БЕЛАРУСКАГА ПЭН-ЦЭНТРА, КАНГРЭС ЛІЧЫЦЬ НЕАБХОДНЫМ ДЭКЛАРАВАЦЬ, ШТО**

**— пасля крушэння камуністычнай ідэі працэсы дэмакратызацыі ў Беларусі штучна ўскладняюцца і тармозяцца людзьмі, якія прыйшлі да ўлады ва ўмовах менавіта свабоднага дэмакратычнага выбару і, здаецца, павінны б былі шанаваць і ўмацоўваць гэтыя свабоды, а на самай справе робяць усё для таго, каб падмяніць «дэмакратыю для ўсіх» так званай «мускульнай дэмакратыяй» у стылі Пятра Першага або Піначэта, «уладу законаў» інтэрпрэтуюць як «уладу ўлады», што выражаецца, у прыватнасці, у абмежаванні волевыяўлення грамадзян, якія належаць да «апазіцыйнай меншасці», у прадастаўленні тэле- і радыёэфіру найперш выразнікам ідэй і планаў уладных колаў, у захопе і падпарадкаванні масавых выданняў, у беспрэцэдэнтнай замене з дапамогай указаў і закулісных распараджэнняў галоўных рэдактараў гэтых выданняў, што рэзка звужае магчымасці грамадзян на атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі; у падмене дэмакратыі псеўдадэмакратыяй, калі пад выглядам кансультацыі з большасцю насельніцтва паспешліва ладзіцца рэферэндум, на якім ставяцца пытанні, якія не вырашаюцца ўсенародным галасаваннем і якія паводле заканадаўства Рэспублікі Беларусь не могуць выносіцца на рэферэндум, пытанні, якія з'яўляюцца лёсавызначальнымі ў жыцці ўсёй нацыі і якія гісторыя даўно ўжо вырашыла, бо тое, што даў беларусам Гасподзь Бог, толькі адзін Ён і можа адабраць; у прамаруджванні і свядомым скажэнні сутнасці рынкавых рэформ, што садзейнічае ўзнікненню сярод насельніцтва, якое трапляе з дрэннага становішча ў горшае, неадэкватнага ўспрымання змен, абуджэнню ў ніжэйшых нізоў настальгіі па камунізму, які нібыта быў ужо збудаваны, але інтрыгамі ворагаў на месцы і з-за замежжа зруйнаваны ў рашучы момант; у штучным фарсіраванні магчымых нацыянальных канфліктаў паміж рускамоўнай «большасцю» і беларускамоўнай «меншасцю», застрашванні пагрозай іх узнікнення;**

**— на фоне гэтых палітычных акцый, якія вядуць да рэзкага пагаршэння сітуацыі з дэмакратычнымі пераўтварэннямі ў Беларусі і стварэннем у ёй адкрытага грамадства, адбываецца свядомае знішчэнне кволых парасткаў свабоды і дэмакратыі, плюралізму ідэй, катастрафічнае згушчэнне амаральнай атмасферы, у якой рэалізацыя агульначалавечых ідэй і натуральных чалавечых правоў становіцца праблематычнай, узнікае рэальная небяспека павароту да дэспатызму і закрытага «жалезнай заслонай» грамадства, руйнуюцца набытыя на працягу многіх пакаленняў беларусаў агульнанародныя маральныя і культурныя каштоўнасці, рэзка звужаецца сфера ўжывання беларускай мовы, якая адна адпавядае менталітэту этнасу, што жыў, жыве і будзе жыць на гэтай зямлі, увачавідкі вырастае пагроза канчатковага вынішчэння гэтай прыгожай і багатай мовы і стварэння безязыкай, маўклівай народнай масы, свядома марнуюцца фізічныя і духоўныя сілы нацыі, якая за апошнія сто год змэнчана бясконцым тузаннем некампетэнтнай і бесталковай улады, што дзейнічае па ленінскаму прынцыпу «крок наперад, два назад» і сталінскаму «крок убок — расстрэл»;**

**УДЗЕЛЬНІКІ КАНГРЭСА ЛІЧАЦЬ СВАІМ АБАВЯЗКАМ ЗАЯВІЦЬ, ШТО ЯНЫ:**

**— глыбока занепакоены сітуацыяй, якая склалася ў Беларусі ў сферы дэмакратызацыі і пабудовы адкрытага грамадства, свабоды слова, друку, сходаў, меркаванняў;**

**— рашуча асуджаюць існуючую практыку блакіравання адкрытага абмеркавання пытанняў аб культурных параметрах дэмакратыі, спецыфіцы яе выяўлення ва ўмовах посттаталітарнага грамадства, аб сістэме нацыянальных каштоўнасцей, якая ўключае ў сябе адначасова і талерантнасць, і пачуццё грамадзянскага абавязку, адказнасці перад Радзімай і яе будучыняй;**

**— лічаць недапушчальнай практыку гвалтоўнага і па-дзікунску некампетэнтнага ўмяшання ўлады, абранай народам для стварэння ўмоў для годнага чалавечага жыцця, пабудаванага на прынцыпах свабоды і адказнасці, у прафесійныя справы журналістаў і літаратараў, вучоных і работнікаў народнай асветы і культуры, дэпутацкага корпусу, а тым больш асуджаюць і пратэстуюць супраць прымянення фізічнай сілы ў дачыненні да недатыкальных асоб, якія прадстаўляюць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў, партый і арганізацый, чытачоў і слухачоў, у свядомым застрашванні метадам нагляднага ўрока астатняй часткі насельніцтва, дэманстрацыі і рашучасці ўлады ісці на самыя крутыя, у тым ліку і крывавыя, меры ў сцвярджэнні сябе і сваіх уяўленняў аб чалавеку, народзе, эканоміцы, культуры, навуцы, асвеце, мастацтве і інш.;**

**— лічаць недапушчальнай закрытую, без шырокага ўдзелу грамадскай супольнасці, выпрацоўку і правядзенне ў жыццё праектаў дзяржаўнага і нацыянальнага будаўніцтва, вызначэнне геапалітычных планаў і праграм стратэгічнага руху ў будучыню, што можа прывесці да гібельных ва ўмовах супярэчлівай рэчаіснасці на зломе тысячагоддзяў і катастрафічных вынікаў не толькі для нацыі, але і для ўсёй зямной цывілізацыі;**

**— не прымаюць заганную практыку парушэння раўнавагі і ўзаемакантролю розных галін улады, што выявілася ў свядомым тармажэнні прайшоўшых і будучых выбараў у вышэйшыя заканадаўчыя органы краіны, у прапагандзе ідэй непатрэбнасці і нават шкоднасці існавання гэтых органаў, у абуджэнні ў асяроддзі народа апатыі і абыякавасці да ўласнай будучыні і да будучыні сваіх дзяцей, у стварэнні глебы для магчымага дзяржаўнага перавароту і павышанай рызыкі вяртання да «таталітарызму ў адной узятай асобна краіне», у перавышэнні паўнамоцтваў, якімі выбаршчыкі надзялілі на пяць гадоў новую ўладу, у актывізацыі разбуральнага патэнцыялу ўладных структур і занядбанні стваральных абяцанняў;**

**— адвяргаюць больш чым дзіўную логіку, паводле якой правы і свабоды прызнаюцца толькі за чыноўнікамі ўсіх рангаў, абранымі ці пастаўленымі, а абавязкі і адказнасць ускладваюцца адно толькі на шарагоўцаў, на якіх глядзяць як на «шрубку» ў вялікім дзяржаўным механізме або нават як на «пушачнае мяса», што абуральна супярэчыць асноўным прынцыпам існавання цывілізаванага грамадства: народ для ўрада, а ўрад для народа».**

Засталося выканаць гэтыя заклікі і рэкамендацыі. Але каб выканаць іх, трэба дамагацца разумення нашага, беларускага, болю. І афіцыйнымі ўладамі, і тымі, хто называе сябе «рускім» ці «рускамоўным» насельніцтвам. Давядзецца яшчэ шмат працаваць, каб адстаяць правы беларусаў застацца самім сабою, а не аказацца праглынутым больш моцным суседам.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

# З марай пра Незалежную Айчыну

Гражданам Татарстана жить в Независимой Отчизне!

1'95

НЕЗАВИСИМАЯ ОТЧИЗНА

БӘЙСЕЗ ВАТАН

Литературно-художественный журнал



«Бәйсез Ватан — Независимая Отчизна» — так называецца літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаецца ў Татарстане. Такі загаловак у часопіса невыпадковы — выданне адлюстроўвае ідэі Партыі незалежнасці Татарстана (ПНТ). Галоўны рэдактар і заснавальнік, ён жа старшыня камітэта «Суверэнітэт» (арганізацыі, якая ўзначальвае рух расійскіх аўтаномій за незалежнасць), генеральны сакратар ПНТ, пісьменнік Амір Махмутаў. Двухмоўнасць загалоўка сведчыць: часопіс змяшчае матэрыялы на татарскай і расійскай мовах, што ў сваю чаргу адлюстроўвае як імкненне партыі пашыраць свае погляды і сярод некарэнных жыхароў рэспублікі, так і сённяшнюю моўную сітуацыю ў Татарстане, дзе, як і ў Беларусі, мова «старэйшага брата» моцна супернічае з мовай карэннай нацыі. Факт з'яўлення часопіса незалежніцкай арыентацыі, як і партыі-заснавальніка, у былой аўтаноміі Расіі — сведчанне таго, што працэс распаду савецкай імперыі пашыраецца і на імперыю ў імперыі — Расію.

У барацьбе за волю кожны свабодалюбівы народ вылучае сваіх лідэраў. У гэтым сэнсе пашанцавала і татарстанцам. Мінцемір Шайміеў, прэзідэнт Татарстана — буйны палітык, які застанецца ў гісторыі свайго народа. У гэтым сэнсе татарстанцам пашанцавала, канешне, больш, чым беларусам, чые кіраўнікі глядзяць на незалежнасць сваёй дзяржавы, як на нейкую недарэчнасць, адхіленне ад нормы, якое трэба абавязкова выправіць, вярнуўшы краіну ва ўлонне «единой и неделимой».

Натуральна, орган палітычнай партыі, якім з'яўляецца гэты часопіс, большасць сваёй плошчы адводзіць самаму папулярнаму зараз жанру — публіцыстыцы. Першы нумар часопіса за гэты год і другі па ліку адкрываецца праграмным артыкулам галоўнага рэдактара Аміра Махмутава, азаглаўленым дэвізам выдання: «Гражданам Татарстана жить в независимой отчизне!» Аўтар піша, што юрыдычна Рэспубліка Татарстан ужо і зараз — поўнасцю незалежная дзяржава. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца Дэкларацыя аб незалежнасці, Канстытуцыя рэспублікі, вынікі рэферэндуму 21 сакавіка 1992 года, на якім за незалежнасць сваёй краіны выказалася большасць выбаршчыкаў. Кіраўніцтва Расіі хоць і прызнала тады суверэнітэт Татарстана, тым не меней пад яго націскам кіраўніцтвам рэспублікі быў падпісаны дагавор, згодна з якім усе важныя паўнамоцтвы Татарстана перададзены Расіі. Таму пакуль яшчэ Татарстан не мае шмат якіх важных адзнак незалежнасці — арміі, памежных войскаў, мытні, валюты, банка, камітэта нацыянальнай бяспекі, войскаў МУС, міністэрстваў замежных спраў, юстыцыі, судоў. Усё падпарадкоўваецца адпаведным структурам Расіі. Няма сваіх амбасадаў за мяжою, закона аб грамадзянстве, пашпартоў. Адсутнасць сваёй валюты, банкаў не дазваляе будаваць эфектыўную эканоміку. Калісьці і беларускія незалежнікі наіўна спадзяваліся, што з абвяшчэннем суверэнітэту Беларусі і забеспячэннем яго ўсімі атрыбутамі беларусы сапраўды зажывуць у вольнай дэмакратычнай дзяржаве. Здавалася б, мы ўжо маем усё тое, аб чым татарстанцам даводзіцца пакуль што толькі марыць. Усе атрыбуты суверэнітэту: войска, памежнае войска, мытню, валюту, банк, камітэт нацыянальнай (быццам) бяспекі, войскі МУС, міністэрствы замежных спраў і юстыцыі, суды. Але, але...

Татарстанцы ўсведамляюць, што ў адзіночку яны сапраўднай незалежнасці не даб'юцца. Таму ў барацьбе за волю яны актыўна салідарызуюцца са сваімі братамі па лёсу і веры — народам Чачні, які адстойвае сваю незалежнасць са зброяй у руках. Тэме салідарнасці з чачэнцамі ў нумары адведзена шмат месца. Пачынаючы з артыкула Джахара Дудаева «Раб, які змірыўся са сваім рабствам, заслугоўвае двайнога рабства», дзе аўтар аналізуе развіццё палітычнай сітуацыі ў Чачні пасля правалу путчу ў Маскве 19-21 жніўня 1991 года. Нельга быць раўнадушным да выступленняў гэтага палітыка. Наўрад ці хто глыбей за яго пазнаў двудушнасць і хцівасць імперскага «цэнтра» і трагедыю свайго народа. Вопыт, вынесены ім з поля бою, небяспечны для імперыі. Штодня бачачы пагібель супляменнікаў, разбурэнні, што нясуць з сабой раз'юшаныя правалам сваіх захопніцкіх намераў маскоўскія генералы, Дудаеў верыць, што яго народ здабудзе аплачаную дарагой цаной незалежнасць. Ад таго, што ён на ўласныя вочы пераканаўся ў амаральнасці палітыкі Масквы, яго ацэнкі знішчальныя, ён выступае як абвінаваўца на судзе гісторыі. Аднак горкі вопыт чачэнскага народа, падобна на тое, намі, беларусамі, не ўспрымаецца, як грознае папярэджанне, бо мы пакорна дазваляем свайму бальшавіцка-настальгічнаму кіраўніцтву ўпіхваць сябе назад у імперыю, адкуль чачэнцы вырываюцца цаной жыцця. Відаць, не выпадкова часткай сцяга Чачні з'яўляецца бел-чырвона-белы элемент.

Свой артыкул Дудаеў пачынае з выказвання сусветна вядомага чачэнскага палітолага Аміра Аўтарханава: «Я сцвярджаю, што дарога да свабоды і суверэнітэту рускага народа ляжыць праз разлажэнне савецкай імперыі». Неабходны сёння савецкі Нюрнберг



«Мітынг-рэквіем памяці абаронцаў г.Казані ў 1552 годзе». Казань. 1994 г.

— суд над савецкай імперыяй, суд над бальшавіцка-камуністычнай ідэалогіяй, бо без суда і пакаяння народам цяжка будзе выбрацца з маральнай і эканамічнай бездані, зразумець і растлумачыць тыя ахвяры, якія панеслі савецкія людзі ў рэвалюцыю і асабліва ў Другую сусветную вайну. Яна была вайной за сусветнае панаванне паміж чырвонай і карычневай чумой, паміж таталітарнымі рэжымамі, паміж двума пачварамі-дыктатарамі Сталінам і Гітлерам. Фашызм узнік як процілегласць камунізму. Фашызм узяў на ўзбраенне варварскія метады камунізму, бо яго ідэі і злачынствы з'явіліся працягам камуністычных ідэй і злачынстваў і абедзве таталітарныя сістэмы — гэта поўнае адмаўленне агульначалавечай маралі.

Цікавымі з'яўляюцца развагі аўтара, што, калі б спроба перавароту ў Маскве не праваліліся, то ў Чачні, напэўна, пачалася б грамадзянская вайна, і наўрад ці ўдалося б у Грозным ажыццявіць «аксамітную» рэвалюцыю і зрушыць партакратычную вярхушку, якая падтрымала сваімі дзеяннямі ГКЧПістаў. Затым паследаваў самароспуск Вярхоўнага Савета Чачэна-Інгушскай Рэспублікі. Але партакратыя пры актыўнай падтрымцы А.Руцкога, які і зараз ірвецца да крэсла прэзідэнта Расіі, каб адрадзіць яе «в ее естественных границах» (сапраўды, толькі Нюрнберг здольны астудзіць гарачыя галовы такіх палітыкаў!), забяспечыла ўмяшанне Расіі. Узнікла магчымасць перарастання «аксамітнай» рэвалюцыі ў звычайную. З гэтай бяды, якая ледзь не адбылася, мы павінны атрымаць, піша далей Дудаеў, урокі і засвоіць наступнае: калі перамога дэмакратыі і канчатковае звяржэнне таталітарызму пачалося ля Белага дома Расіі 19-21 жніўня 1991 года, ад цэнтра да перыферыі, то рэстаўрацыя таталітарнай дыктатуры ў вытанчаных формах (калі кіраўніцтва Расіі не будзе ўлічваць нацыянальныя асаблівасці рэгіёнаў) можа пачацца ад перыферыі к цэнтру праз грамадзянскія і эканамічныя войны.

На законных выбарах прэзідэнта за Дудаева прагаласавала 85% выбаршчыкаў. Але ўстанаўленню суверэнітэту Чачні спрабавалі перашкодзіць у імперскім цэнтры. На ўсёй тэрыторыі Чачэна-Інгушскай Рэспублікі ўводзіцца надзвычайнае становішча, паступіў загад затрымаць Дудаева і іншых сяброў Агульнанацыянальнага кангрэса чачэнскага народа. Але чачэнцы сабраліся ў Грозным для абароны сваёй рэвалюцыі, як сабраліся ў свой час для абароны свайго парламента летувісы. Аднаму з прысланых з Расіі салдатаў стары чачэнец тады сказаў наступнае: «...ні ад тэрыторыяў, ні ад крывавых войнаў, у якіх знішчаліся суседнія з Расіяй народы, расійскі народ шчаслівым і багатым не стаў. Багатымі станавіліся вашы цары, іх набліжаныя, вашы правадыры, якім вы пакланяліся, як багам».

Адзіны парыў чачэнскага народа, гатоўнасць абараніць суверэнітэт прымусілі (часова, як убачым пасля — У.С.) цэнтр адступіць: сесія ВС Расіі адмяніла ўказ Ельцына аб надзвычайным становішчы. Аднак, не жадаючы прызнаваць законна абранага прэзідэнта і парламент Чачні, выкарыстоўваецца супраць яе ўвесь магчымы арсенал метадаў падрыўной дзейнасці — разыгрыванне казацкай і інгушскай картаў і г. д.

«Праўда аб незалежным Чачэнстане» — пад такім загалоўкам змешчана інтэрв'ю з бліжэйшым паплечнікам Дудаева Саламбекам Акбулатавым. Падзеі ў Чачні выклікалі ў Татарстане хвалю мітынгаў пратэсту. У нумары надрукаваны шэраг прынятых на гэтых мітынгах зваротаў да кіраўніцтва Расіі ў абарону чачэнскага народа. Завяршаецца чачэнская тэма рэпартажам журналістаў турэцкай газеты «Заман» аб падзеях у Чачні ды іх рэзанансе ў Турцыі, дзе жыве шмат этнічных чачэнцаў.

У сваім артыкуле «Пакорнасць да незалежнасці не прывядзе» саветнік юстыцыі Гаял Муртазін з пункту погляду міжнароднага права аналізуе палітычную сітуацыю ў Татарстане. Ён піша, што, высунуўшы адкрыта на парозе новага стагоддзя імперскі лозунг «Адзіная і непадзельная Расія», гора-палітыкі «федэрацыі» на шляху да свабоды адвяргаюць усё святое. Таму вольналюбівым рэспублікам бесперспектыўна знаходзіцца ў складзе некіруемай унітарнай дзяржавы, вобразна названай «бацькам сусветнага пралетарыяту» турмой народаў. Не будзе ў турме ні свабоды і ні свабоднага развіцця ні для каго, у тым ліку і для таго народа, імем якога яна названа. Амбіцыі сённяшніх дзяржаўных дзеячаў «федэрацыі» — **гэта спроба рэалізацыі амаральнай мэты вечнага замацавання «статус кво» раней пакораных народаў і іх разбураных дзяржаў і тэрыторый, а таксама давядзення да канца працэсаў асіміляцыі нацый, нягледзячы на іх упартае супраціўленне такой анахранічнай з'яве**. У Канстытуцыі сённяшняй Расіі самавызначэнне народа прызнаецца толькі ў межах «федэрацыі». Многія самазваныя расійскія дэмакраты, а па сутнасці заўзятыя шавіністы, суладна мыслячы тут з фашыстамі, сумесна з імі актыўна дзейнічалі на шляху да вечнага замацавання імперскага ладу ў Расіі. Актыўна распаўсюджваючы фашыстоўскую практычна ідэалогію, гэтыя «дэмакраты» і «ліберал-дэмакраты», піша юрыст Г.Муртазін, атруцілі свядомасць шырокіх слаёў насельніцтва і, не крыўдзячы адны другіх, прыйшлі сёння да ўлады ў Расіі. Яны ж у асноўным законе «федэрацыі» заклалі не што іншае, як механізм звароту да аджыўшай і адкінутай самім жыццём мадэлі царскага самадзяржаўя.

Бездакорны з прававога пункту погляду, усенародна абвешчаны суверэнітэт-незалежнасць Татарстана, неаднаразова пацверджаны праз выбары і рэферэндумы «федэрацыі», якія не адбыліся на яго тэрыторыі, непахісны ў прасторы і часе. Чаму ж тады цэнтр «федэрацыі» таргуецца з народам Татарстана? — пытаецца Г.Муртазін. — Ці не таму, што маючыя ўладу гэтай дзіўнай супольнасці пераблыталі дэмакратыю з дыктатурай, хаця і называюць сябе дэмакратамі?

Між тым, працягвае Г.Муртазін, асноўная бяда Татарстана не разбойніцкая палітыка «патрыётаў Расіі», а паводзіны ўласных лідэраў, якія мяняюцца пад націскам звонку (гэткая ж бяда і ў суверэннай Беларусі — У.С.). Яны ў сваім палітыка-прававым курсе часта дапускалі пагарду да важнага прынцыпу дзяржаўнага жыцця, які гучыць так: суверэнітэт-незалежнасць не просяць у «дабрадзеяў», яго абвяшчаюць і самастойна замацоўваюць. Рэалізаваць суверэнітэт могуць не баязлівыя, а смелыя народы, якія пазбавіліся ад рабскай псіхалогіі, хто дастойны суверэнітэту, хто яго дабіваецца актыўна, адкрыта і мэтанакіравана, не хаваючы сваіх памкненняў. Слушна кажа Валерыя Навадворская, заўважае аўтар артыкула, што Чачэнская рэспубліка дастойная незалежнасці хаця б таму, што яе народ і кіраўніцтва бескампрамісныя на гэтым шляху. Вышэйшая ж эліта Татарстана пад маркай «гібкай палітыкі», «мяккага ўваходжання ў суверэнітэт», а таксама і «рыначныя адносіны» пакуль што яшчэ не паказала сябе здольнай на чакаемыя пераўтварэнні. Наменклатура больш прыслухоўваецца да прыхільнікаў умацавання імперыі і ў залежнасці ад ступені іх шантажу і вымагальніцтва рабіла адны ўступкі за другімі на карысць цэнтру «федэрацыі» — сваёй былой метраполіі, дапускаючы часам змову за спіной народа.

Ніводзін чалавек, ніводзін народ, піша Г.Муртазін, не зможа дасягнуць сваёй незалежнасці толькі шляхам угавораў тых, хто іх яе пазбавіў. Абвяшчэнне і рэалізацыя суверэнітэту Татарстана ідзе ад народа, знізу. Татарскі народ, які ў сваю гістарычную бытнасць на працягу стагоддзяў меў свае незалежныя дзяржавы — Вялікую Булгарыю, Казанскае ханства — больш не жадае мірыцца са сваім каланіяльным мінулым. Ігнараванне цэнтрам «федэрацыі» такога фактару раўназначна пакіданню ў рабочым стане дэтанатара магутнай узрыўчаткі, размешчанай у фундаменце сваёй дзяржаўнасці: патэнцыяльная энергія ў любы момант можа ператварыцца ў кінетычную. Нельга Татарстану нават асацыіравацца з дзяржавай, якая рухаецца самым небяспечным імперскім курсам — курсам фашызацыі.

Не варта засмучацца, аптымістычна заключае свае разважанні аўтар. Няхай палітычныя дзеячы суседняй дзяржавы дзесяткі разоў уключаць Татарстан у свае законы, выдаючы жадаемае за сапраўднае, ад гэтага прававы бок справы не зменіцца. Калі нават Расія афіцыйна заявіць і дакументальна пацвердзіць, што быццам Татарстан з'яўляецца яе губерняй, няхай нават яе сродкі масавай інфармацыі займаюцца шантажом і штодзённа чаўпуць аб татарскіх «нацыяналістах» і «сепаратыстах», няхай гэтая краіна пагражае эканамічнай блакадай, няхай на тэрыторыю «астраўка» ўвядзе свае адборныя войскі, а тэлебачанне пакажа Татарстан часткай Расіі пры аб'яўленні прагнозу надвор'я. Такі занятак для «федэрацыі» бесперспектыўны, бо народ суверэннай рэспублікі праз адзінства, сапраўдную дружбу, згоду гэтыя цяжкасці абавязкова пераадолее. Цемрашальства — з'ява не пастаянная, а часовая, яно заўсёды саступае прагрэсу і натуральнаму ходу развіцця чалавецтва. Толькі экстранныя меры па замацаванні суверэнітэту нацыянальных дзяржаў могуць садзейнічаць актывізацыі працэсаў процістаяння расійскаму фашызму, які прарываецца да ўлады, заключае Г.Муртазін.

Акрамя прозы, шмат месца ў нумары займае паэзія. Са сваімі творамі выступаюць як татарскія, так і расійскія паэты. Нумар багата ілюстраваны фотаздымкамі з сучаснага бурнага палітычнага жыцця Татарстана, Чачні.

Маленькі Татарстан хоча быць незалежным, — сведчыць часопіс «Бәйсез Ватан».

**Уладзімір СВЯЖЫНСКІ.**

# Кола сям'і

Масару ІБУКА

## Пасля трох ужо позна

(Працяг.)

### Кожнае дзіця можа вучыцца добра — усё залежыць ад метаду навучання

Чытач можа здзівіцца, чаму я, інжынер па прафесіі і ў цяперашні час прэзідэнт кампаніі, заняўся пытаннямі ранняга развіцця чалавека. Прычыны часткова «грамадскія» — мне не абыякавыя сённяшнія бунты моладзі, і я пытаюся, наколькі сучасная адукацыя вінаватая ў незадаволенасці жыццём гэтых маладых людзей. Ёсць і асабістая прычына — маё ўласнае дзіця адставала ў разумовым развіцці.

Пакуль яно было зусім маленькім, мне і ў галаў не прыходзіла, што дзіця, народжанае з такімі адхіленнямі, можа развіцца ў нармальнага адукаванага чалавека, нават калі яго правільна выхоўваць ад самага нараджэння. Вочы мне адкрыў доктар Шынічы Сузукі, які сцвярджае, што «няма адсталых дзяцей — усё залежыць ад метаду навучання».

Доктар Сузукі практыкуе свой унікальны метад «Выхаванне таленту» ужо 30 год. Ён навучае малечаў граць на скрыпцы, таму што сам скрыпач. Калі я зразумеў, што гэты метад можна паспяхова ўжываць у любой галіне адукацыі, я вырашыў сур'ёзна вывучыць праблему «ранняга развіцця».

### Ранняе развіццё не ставіць мэтай выхаванне геніяў

Мяне часта пытаюцца, ці дапамагае ранняе развіццё выхоўваць геніяў. Я адказваю: «Не». Адзіная мэта ранняга развіцця — даць дзіцяці такую адукацыю, каб ён меў глыбокі розум і здаровае цела, зрабіць яго кемлівым і добрым.

Усе людзі, калі яны не маюць фізічных недахопаў, нараджаюцца прыблізна аднолькавымі. Адказнасць за падзяленне дзяцей на дурных і разумных, забітых і агрэсіўных кладзецца на выхаванне. Любое дзіця, калі даць яму тое, што трэба і калі трэба, павінна вырасці кемным і з цвёрдым характарам.

На мой погляд, асноўная мэта ранняга развіцця — папярэдзіць з'яўленне няшчасных дзяцей. Дзіцяці даюць слухаць добрую музыку і вучаць граць на скрыпцы не для таго, каб вырасціць з яго выбітнога музыку. Яго вучаць замежнай мове не для таго, каб выхаваць геніяльнага лінгвіста, і нават не для таго, каб падрыхтаваць яго ў «добры» дзіцячы сад і пачатковую школу. Галоўнае — развіць у дзіцяці яго бязмежныя патэнцыяльныя магчымасці, каб больш было радасці ў яго жыцці і ў свеце.

### Сама недаразвітасць чалавечага дзіцяці кажа пра яго велізарныя патэнцыяльныя магчымасці

Я лічу, што ранняе развіццё звязанае з велізарным патэнцыялам нованароджанага.

Канешне, нованароджаны абсалютна бездапаможны, але менавіта таму, што ён такі бездапаможны, такія вялікія яго патэнцыяльныя магчымасці. Дзіця чалавека нараджаецца куды менш развітым, чым дзеці жывёлаў: яно ўмее толькі крычаць і смактаць малако. А дзеці жывёлаў, напрыклад, сабакі, малпы ці каня, умеюць поўзаць, чапляцца ці нават адразу ўставаць на ногі іісці. Заолагі сцвярджаюць, што нованароджанае дзіця адстае ад нованароджанага дзіцяці жывёлы на 10—11 месяцаў, а адна з прычын гэтага — чалавечая поза пры хадзе. Варта было чалавеку прыняць вертыкальнае становішча, і плод ужо не змог знаходзіцца ў чэраве да поўнага свайго развіцця, таму і нараджаецца дзіця яшчэ зусім бездапаможным. Яму даводзіцца вучыцца карыстацца сваім целам ужо пасля нараджэння. Гэтак жа ён вучыцца карыстацца мозгам. І калі мозг любога дзіцяці жывёлы практычна сфармаваўся да моманту нараджэння, дык мозг нованароджанага дзіцяці — як чысты аркуш паперы. Ад таго, што будзе запісана на гэтым аркушы, залежыць, наколькі адораным зробіцца дзіця.

### Структуры мозгу фарміруюцца да трох гадоў

Чалавечы мозг, кажуць, налічвае прыкладна 1,4 мільярда клетак, але ў нованароджанага большасць з іх яшчэ не задзейнічаны.

Параўнанне клетак галаўнога мозгу нованароджанага і дарослага чалавека паказвае, што ў працэсе развіцця мозгу між яго клеткамі фарміруюцца асаблівыя масткі-адросткі. Клеткі галаўнога мозгу нібы працягваюць адна адной рукі, каб моцна трымацца адна за адну і адгукацца на інфармацыю звонку, якую яны атрымліваюць праз органы пачуццяў...

Перыяд, калі сувязі між клеткамі фарміруюцца найбольш актыўна, — гэта перыяд ад нараджэння дзіцяці да трох год. У гэты час ствараецца прыкладна 70-80% такіх з'яднанняў. Па меры таго, як яны развіваюцца, узрастаюць магчымасці мозгу. Ужо ў першыя 6 месяцаў пасля нараджэння мозг дасягае 50% свайго дарослага патэнцыялу, а да 3 год — 80%.

(Працяг будзе.)

Здароўе

Таццяна ФАМІНА,
кандыдат медыцынскіх навук

## Харчаванне хворых на хранічны гастрыт

Вядома, што хворыя на хранічны гастрыт і гастрадуодэніт маюць парушаную сістэму засваення спажыўных рэчываў, таму ім неабходна, сама перш, добра перажоўваць ежу, таму што ўжо ў роце яна апрацоўваецца ферментамі, якія знаходзяцца ў сліне.

Ведайце і выконвайце некалькі простых правілаў:

Не харчуйцеся бутэрбродамі — яны часта складаюцца з несумяшчальных прадуктаў.

Не спажывайце свежае малако, смятанку ды малочныя супы — арганізм дарослага чалавека, не кажучы ўжо пра тых, хто мучыцца ад парушэння страўнікавай сакрэцыі, не мае ферментаў дзеля перапрацоўкі малочных бялкоў.

Пазбягайце спажываць т. зв. «першыя стравы» наогул — яны разбаўляюць і без таго слабую кіслотнасць страўнікавага соку, праз што пагаршаецца стравараванне. У людзей з павышанымі сакраторнай функцыяй і кіслотаўтварэннем (ранняя стадыя гастрыту) «першыя стравы» ствараюць лішак вадкасці ў страўніку, што таксама не спрыяе нармальнаму яго функцыяванню.

Падрыхтуйце свой страўнік да стрававання ежы: за 40 хвілін да яды выпіце шклянку соку (лепш не таматнага). Снеданне ці абед пачынайце салатай з сырой гародніны, пажадана прыпраўленую алеем, і толькі пасля гэтага можаце есці мяса, рыбу, тварог, кашу.

Вельмі карысныя свежыя гароднінныя двайныя ці нават трайныя сокі: маркоўна-капусныя, бурачна-маркоўна-бульбяны, капусна-бручкавы ды іншыя. Калі няма пад рукой соку, а вы спяшаецеся, можна выпіць за 40 хвілін да яды шклянку звычайнай вады, каб стварыць страўніку ўмовы дзеля выдзялення страўнікавага соку.

Калі вы не можаце жыць без «першых страў», рыхтуйце іх у выглядзе густых гароднінных супоў (халаднікоў), не прыпраўляючы смажаным салам ды цыбуляй.

Не будзем рэзка катэгарычнымі ў забароне алкагольных напояў. Авіцэна і іншыя старажытныя дактары, прафесар Лідскі ды шэраг іншых айчынных і замежных навукоўцаў неаднойчы даказалі на практыцы карысць розных алкагольных напояў у малых дозах пры захворваннях на гастрыт. Аднак, вядомы Поль Брэг сцвярджаў, што калі чалавеку хочацца выпіць, гэта азначае, што ў яго арганізме не хапае вітамінаў групы В. Таму вельмі карысна ежу пачынаць салатай з сырой зялёнай гародніны: маладое бацвінне буракоў, рэпы, шпінату, капусты. Неабходна есці бананы, ананасы, апельсіны, грэйпфруты, а таксама свежае пахрошчанае (храсткі павінны быць не больш за некалькі міліметраў) зерне пшаніцы ды мёд (мёд — толькі пры высокай і нармальнай кіслотнасці).

Калі вы не маеце часу або магчымасці падрыхтаваць сабе вітамінную салату, можна глынуць адну сталовую лыжку чырвонага сухога віна — для стымуляцыі выдзялення страўнікавага соку. Чырвонае сухое віно, зёлкавыя бальзамы ўтрымваюць многа мікраэлементаў, вітамінаў, таму іх можна прымаць перыядычна па адной дэсертнай — адной сталовай лыжцы перад ядой. Асабліва раім гэта хворым з паніжанай сакрэцыяй ды пры адсутнасці апетыту. Аднак, паўторым, ніякае віно не заменіць свежыя гародніну і садавіну.

Ешце кашы — аўсяную, прасяную, грачаную, рысавую — усе яны маюць шмат мікраэлементаў. У гэтыя стравы варта дабаўляць разынкі, курагу, сушаныя слівы. Не захапляйцеся бульбяною кашай: яе спажыванне спрыяе браджэнню ў страўніку. Ведайце: карысная толькі печаная бульба, якая захоўвае каль (калій). Людзям з выражаным парушэннем стрававання варта памятаць, што бульба несумяшчальная з мясам і хлебам. Мяса і рыбу трэба спажываць, але толькі паранымі або тушанымі. Старайцеся не есці каўбасы ды вэнджанае мяса.

Хворым на гастрыт не трэба спажываць аладак, бо яны звычайна рыхтуюцца на содзе і смажацца на алеі. Менш шкодныя тыя, што рыхтуюцца на сыроватцы і пякуцца ў тэфлонавым посудзе. Старайцеся не смажыць страву, а таксама і яйкі. Іх трэба есці зваранымі ў смятку (не часцей 1—3 разоў на тыдзень), але не сырымі. Авідзін бялка сырых яек будзе нішчыць біяцін сырога жаўтка. Біяцін — адзін з фактараў росту, таму сырыя яйкі не трэба даваць дзецям.

Каб пазбегчы дэфіцыту бялкаў арганізме, трэба есці грэцкія арэхі (4—5 штодня), тварог, які вы самі падрыхтавалі з кефіру ці ражанкі. Калі смятана выклікае ў хворага браджэнне ў страўніку, то тварог можна паліць варэннем або мёдам.

Дзеля таго, каб не памяншалася колькасць кальцу (кальцыю) ў арганізме, трэба есці вараныя боб, буракі, любыя сыры. Кальцу шмат у зялёным бурачным бацвінні, у лісцях дзьмухаўца, гарчыцы, крэс-салаты, салаты-латука.

Не ешце занадта многа салодкіх пірагоў, кексаў, наогул, печыва з дражджавога цеста, бо яно спрыяе браджэнню ў страўніку ды кішэчніку.

## Мудрыя гавораць

Творчасць чэшскага пісьменніка Карэла Чапэка добра вядомая нашаму чытачу — яго кнігі часта перакладаліся на расійскую і беларускую мовы, п'есы ставіліся ў тэатрах, экранізаваліся. Асноўнай вызначальнай рысаю творчасці пісьменніка можна назваць дабрыню. Ён быў добрым і бяскрыўдным чалавекам і ў жыцці. Аднак яго талент, сама гэтая дабрыня, чалавечнасць прымусілі яго зрабіцца змагаром.

Карэл Чапэк нарадзіўся ў 1890 годзе ў прамысловым гарадку Паўночна-Усходняй Чэхіі ў сям'і ўрача, у якой панавала атмасфера ўзаемнай павагі і дабрыні, цікавасці да мастацтваў. Не дзіва, што багатыя творчыя дадзеныя дзяцей у гэтай сям'і змаглі шчасліва рэалізавацца (брат Карэла Чапэка, Йозэф, вядомы мастак і пісьменнік, загінуў у фашысцкім канцлагеры).

Чапэк вучыўся на філасофскім аддзяленні Карлава універсітэта, слухаў лекцыі ў Берлінскім і Парыжскім універсітэтах. Кола яго інтарэсаў было вельмі шырокім. Ён цікавіцца гісторыяй сусветнай літаратуры і жывапісу, складае анталогію ўласных перакладаў французскай паэзіі... Была ў пісьменніка неўтаймоўная страсць да спазнання свету, дзе няма дробязяў, няма рэчаў нецікавых. Чапэка называюць «майстрам малых форм». Сапраўды, зборнікі гумарыстычных нарысаў і апавяданняў, мініяцюр, прысвечаных менавіта «дробязям свету», заўсёды прыцягвалі ўдзячную чытацкую ўвагу. Гэта зборнікі «Рэчы вакол нас» (1925), «Аб людзях» (1940), «Каляндар» (1940), «Маленькія апавяданні» (1946). Пісьменнік заўсёды выступаў у абарону народнага мастацтва, вывучаў густы «народнага чытача»: чаму такой папулярнасцю карыстаецца «бульварная літаратура»? Чапэк адкрыў псіхалагічны механізм папулярнасці бульварнай раманістыкі: займальнасць і рамантычны пафас, эпічнасць і шчаслівы фінал. Калі рэальнасць агідная, чалавек цягнецца да яе супрацьлегласці... Чапэк зрабіў устаноўку на з'яднанне мастацтва «высокага» і агульнадаступнага. Пісьменнік звяртаецца да формы дэтэктыва — усе яго апавяданні — проста дэтэктыў ці пародыя на яго, ці прыпавесць на яго аснове.

Пісьменнік памёр ад грыпу, ва ўзросце 48 год. Але падставай яго смерці было іншае — калі Чэшская Рэспубліка, па Мюнхенскаму пакту, адышла фактычна да гітлераўскай Германіі, рэакцыя сканцэнтравала свой удар, сваю нянавісць на пісьменніку, які заўсёды быў абаронцам волі свайго народа. Не першы выпадак у гісторыі — палітычныя дзеячы мірным чынам уцякаюць у эміграцыю, кінуўшы сваю Радзіму пад ногі мацнейшаму суседу, а тыя, што захапілі ўладу, пачынаюць цкаваць нацыянальныя таленты — неад'емную частку народа, таму ўцякаць ім няма куды.

На пісьменніка вылілі столькі гразі, колькі рэдка выпадае на долю сапраўднага злодзея. Карэл Чапэк не быў па натуры барацьбітом. Ён быў проста добрым чалавекам і любіў свой народ, сваю культуру, сваю мову... Гэтага яму і не даравалі.

Сёння мы чытаем і перачытваем творы чэшскага пісьменніка, цешымся яго яскравым гумарам, трапнымі назіраннямі, гуманістычнай філасофіяй. Знаходзім суцяшэнне ў яго творах, сілу прымірыцца з жыццём і змагацца са злом. Прапануем чытачам «Кола сям'і» падборку мініяцюр і афарызмаў Карэла Чапэка.

Л.Ш.

***Няроўная бойка***

Калі жанчына не здаецца, яна перамагае, калі здаецца, дыктуе ўмовы пераможцу. У абодвух выпадках яна выйграе.

***Вучоны вусень***

Ха! Па-вашаму, я зраблюся матылём? Гэта забабоны і недасведчанасць, шаноўны. Сапраўдная ілюзія. Дзіцячыя казкі. Навукова сцверджана, што ў вусеня, акрым стрававальнага тракту, нічога больш няма. Ніякіх крылаў, і быць не можа. Ніякіх яркіх крылаў. Паміраем, і гамон.

***Верабей***

Вялікі птах — салавей! Нас, вераб'ёў, куды больш!

***Падзел працы***

Я буду глядзець, як вы працуеце, а вы будзеце глядзець, як я ем.

***Паведамленне***

Жыхары вынішчаны, і горад спалены з захаваннем поўнага парадку і дысцыпліны.

***Яшчэ адзін дыктатар***

Я адняў у іх волю, затое ўнушыў упэўненасць у сабе.

***Аўца***

Няхай заржуць — абы вялі.

***Раб***

Я быў бы шмат на што здольны, каб мне загадалі.

***Тыран і філосафы***

Я буду дзейнічаць, а вы будзеце падшукваць падставы для маіх дзеянняў.

***Журналіст***

Я жыў не дарэмна. Напрыклад, колькі нянавісці мне ўдалося выклікаць.

***Міжнароднае пагадненне***

Мы, трусы, заключылі дамову з курамі, што мы не будзем з'ядаць адзін аднаго. Паглядзім, што на гэта скажа ястраб.

Аптэка танных лекаў

## Вінаград

У ягадах гэтага павоя-ліяны шмат вінаграднага цукру, цукрозы, арганічных кіслот — яблычнай, віннай, глюкаронавай, лімоннай. Ёсць у іх дубільныя рэчывы, амінакіслоты: цысцін, лізін, гістыдзін, аргінін, аспарагін, глюталін, серын, гліцын, метыянін, а таксама флаваноіды (рэчывы, якія спрыяюць засваенню вітамінаў), антацыяны (пігменты, што фарбуюць ягады), якія выдаляюць з арганізму шкодныя солі «цяжкіх» металаў (свінец, ртуць) ды радыенукліды. Шмат у вінаградных ягадах вітамінаў С і групы В, мінеральных соляў калія, кальцу, жалеза, фосфара, а таксама ферментаў (рэчываў, якія прыспешваюць хімічныя працэсы ў арганізме) ды стэрынаў.

Праз гэты багаты склад рэчываў вінаград стаў незаменным лекавым сродкам. Ягоныя ягады маюць мачагоннае, жоўцягоннае, паслабляльнае ўздзеянне, паніжаюць кіслотнасць страўнікавага соку, спрыяюць абмену рэчываў ды ўтварэнню эрытрацытаў. Іх раяць спажываць пры аслабленай нервовай сістэме, хранічных бранхітах і нефрытах, а таксама тым, хто хварэе на сухоты (туберкулёз), мучыцца ад урэтрыту ды падагры.

Методыка лячэння вінаградам простая: першыя тры дні спажываюць тройчы на дзень па 200 г. ягад, а пасля павялічваюць дозу да 2 кг. на дзень. Лячэнне працягваецца 3 тыдні. Вядома ж, трэба памятаць, што кіслоты, якія ў вінаградзе, могуць разбураць пашкоджаныя зубы, што вінаград зашкодзіць тым, хто хварэе на цукровы дыябет, хто мае страўнікавую язву, у каго павышаны крывяны ціск, з'явіліся ацёкі ад сардэчнай недастатковасці.

З.С.

# Святочны каляндар беларусаў

# «Лістапад — зіме сцежку сцеле»

Апошні месяц восені звязаны з зімовай смерцю — сном прыроды, наступленнем маразоў, выпадзеннем снегу, пакрыццём рэчак і азёр лёдам. Гэта адлюстравалася ў прыказках: «У лістападзе гола ў садзе», «У лістападзе зіма восень пакладзе», «Лістапад зямлю грудзіць», «Калі ў лістападзе снегу надуе — селянін без хлеба не будзе», «У лістападзе кладзі капусту ў кадзі», «У лістападзе кармі скацінку, браце», «Лістапад на рабой кабыле ездзіць — то снег, то адліга», «Лістапад — вераснёўскі унук, кастрычнікаў сын, зіме бацька родны».

Галоўнае свята ў лістападзе — *Дзяды* па-філасофску асэнсавана не толькі як зімовая смерць прыроды, але і як заканчэнне зямнога існавання кожнага чалавека, як мы гэта маем у знакамітай аднайменнай паэме Адама Міцкевіча «Дзяды». Сярэдзіна месяца звязана з пачаткам хатніх талок, вячорак, кузьмінак, рамесніцкіх клопатаў, звязаных з падрыхтоўкай вупражы і земляробчых прылад да будучых земляробчых работ. На канец месяца прыпадае пачатак Піліпаўкі — перадкаляднага шасцітыднёвага посту — пары працяглых піліпаўскіх гульняў, казак, маральна-павучальных легендаў, былін, успамінаў-апавядаў, працяжных піліпаўскіх песень, карагодаў, піліпаўскіх талок.

Нагадаем, што 27 лістапада — угодкі Слуцкага паўстання 1920 года.

**1** (серада). **Кат.** *Усіх святых.*

**2** (чацвер). **Кат.** *Дзень успамінаў усіх памёрлых (Задушны Дзень).* З 1993 года афіцыйна адзначаецца ў Беларусі як *Дзень памяці.*

**4** (субота). **Народны каляндар.** *Дзяды, Змітраўка, Змітравы Дзяды* — дзень ушанавання продкаў пасля пакрыцця зямлі снегам. У шэрагу больш дзесяці дзядоўскіх субот Змітраўская (перад 8-ым лістападам) лічылася галоўнай, найбольш урачыстай, выніковай. Яна сімвалізавала на адпаведным этапе і зямны вынік жыцця кожнага чалавека.

Урачыстае ўшанаванне беларусамі продкаў звязана з найстаражытнейшай верай аб сувязі лёсу жывых з памерлымі родзічамі, якая толькі ў наш час атрымлівае абрысы навуковага тлумачэння, хоць вядома яшчэ з індыйскіх «Ведаў». Юнак у нашых продкаў прымаўся ў род не толькі тады, калі мог забіць магутнага звера і пераплыць хуткую раку, але да таго ж ён павінен быў успомніць свайго продка да пятага калена. У гэтай традыцыі, відаць, закладзены адбор лепшага вопыту нашых продкаў для будучыні, а значыць, і вялікая жыццёвая стойкасць нашага народа і яго вялікая гістарычная перспектыва. Таму, відаць, вялікі беларус Рыгор Шырма ўпэўнена гаварыў: «Не з'елі нас раней, то цяпер ужо не з'ядуць».

Як і папярэднія галоўныя святы беларусаў, звязаныя з пераломнымі віткамі Зямлі вакол Сонца (Каляды, Вялікдзень, Купала), Дзяды таксама асацыіруюцца з перамогай холаду над цяплом, смерці над жыццём.

Перад Змітравай суботай усе хатнія збіраліся за ўрачыстым сталом, а старшы ў сям'і пачынаў сваю ўрачыстую прамову: «Хвала табе, Божа, што Дзядоў дачакаліся. А на гэтае свята, людзі, грошы траце, бо ад Дзядоў да Дзядоў мо як сорак гадоў, — усё-такі дачакаліся. Ай, дзяды, дзядова, вам усё гатова: і піва, і мёд, і квас, ёсць вам і мяса, і кілбасы, толькі ешце, будзе з вас! Хлеб, гарох і каша — усё багацце наша!.. Памяні, Божухна, нашых святых дзядоў! Няхай яны са святымі спачываюць, а нам хлеба-солі засылаюць!» У асобных сподачак адкладалі дзядам стравы і піва, ставілі іх на акно са словамі: «Святыя Дзяды, прыйдзіце сюды — гэта для вас!»

Прадметам працяглай гутаркі былі, зразумела, успаміны аб найлепшых якасцях продкаў па прынцыпу народнай філасофіі і этыкі: «Аб нябожчыках або толькі добра, або ні слова!»

Са святам Дзядоў звязаны прыгожы рытуал запісу іменаў памерлых членаў роду на бэльках столі і ў покуці. У наступны дзень, нядзелю, крэўныя другіх родаў збіраліся ў найбольш паважанай заможнай хаце і заклікалі найбольш вядомых памерлых родзічаў на багаты абед. Усе прысутныя былі моцна перакананы ў тым, што цені нябожчыкаў нябачна выходзяць з магіл і, седзячы за сталом, жывяцца парай, якая ідзе ад страў.

Выпраўляючы душы нябожчыкаў, гаварылі: «Святыя Дзяды, зляталісь сюды. Ёсці — пад'елі, піць — напіліся, гонар і слава вам! Цяпер скажыце нам, што вам трэба, а лепей — ляціце ў неба!» У трагічныя моманты прыгаворвалі: «Жылі дзяды — не ведалі бяды, а ўнукі — набраліся мукі!». Назва свята звязана з імем Дзмітрыя Данскога, які зрабіў гэты дзень днём памінак па загінуўшых на Куліковым полі ў 1380 годзе ваяроў. З цягам часу ў гэты дзень пачалі памінаць усіх родзічаў.

**8** (серада). **Народны каляндар.** *Зміцер, Змітраў дзень, Змітрок* — з-за набліжэння Піліпаўскага посту атаясамліваўся са знікненнем надзеі выйсці замуж: «Да Змітра дзеўка хітра», «Хітры Зміцер, ды і Саўка не дурань», «Да Змітра дзеўка хітра і здарова, а пасля Змітра — раве як карова». Назва свята звязана з імем святога Дзмітрыя Салунскага — заступніка ваяроў (жыў пры рымскім імператары Максіміляне ў I веку н.э.).

**9** (чацвер). **Народны каляндар.** *Тадор,* прысвятак. Людзі казалі: «На Тадора — поўная камора».

**10** (пятніца). **Народны каляндар.** *Параскева Пятніца, Параскіна Пятніца, Пяцёнка, Параска, Параскі Асеннія.* Паводле народнага павер'я святая ў выглядзе старой бабы ходзіць па вёсках і строга глядзіць, каб ніхто не праў кудзелю ў пятніцу. Дзяўчаты прасілі: «Пяцёнка, Пяцёнка! Памажы хоць ты, каб мне замуж пайсці». З гэтым прысвяткам звязваюцца творы пра нешчаслівае замужжа.

*Не хадзіце, дзеўкі, замуж,*
*Замужам нявесела,*
*Мая маці выйшла замуж —*
*Галоўку павесіла.*
*Не хадзіце, дзеўкі, замуж,*
*Замужам вы будзеце,*
*А дзявоцкае жыццё*
*Да смерці не забудзеце.*
*Каб я тое знала,*
*Што мая доля ліхая,*
*Не пайшла б я замуж,*
*Я й такая маладая!*

На Пяцёнку рабілі льняныя агледзіны: вытрапаны лён-пярэшак паказвалі адна адной, хваліліся яго чысцінёй, — дзеўкі імкнуліся паказаць свае лепшыя льняныя вырабы будучай свякроўцы.

**11** (субота). **Народны каляндар.** *Насцяавечніца,* на якую частавалі аўчароў, што збераглі гурт, а зараз пачыналі стрыгчы авечак. Адзначаўся ў гэты дзень і прысвятак млынароў — *Марцін* («З Марцінавага дня пачынаецца зіма»).

**13** (панядзелак). **Ун.** *Яна Залатавуснага, арцыбіскупа Канстанцінопальскага.*

**14** (аўторак). **Народны каляндар.** *Кузьмінкі, Кузьмадзям'ян* — свята шаўцоў, кавалёў і іншых рамеснікаў, пара іх актыўнай працы па падрыхтоўцы сельскагаспадарчых прылад, вупражы і іншага рыштунку да наступнага земляробчага года. У прыказках так раскрываецца сэнс гэтага свята: «Кузьмінкі — пра восень адны памінкі», «Закуе Кузьмадзям'ян — да вясны кроснаў не раскаваць», «Кузьмадзям'ян — бессярэбранік — за працу грошай не бярэ, адно корміцца», «Кузьма ды Дзям'ян — два ліцвіны, прынеслі гаршчочак бацвінні». У валачобнай песні спяваецца:



*Святы Пакроў жыта звозіць,*
*А Кузьма з Дзям'янам на васець садзяць*
*На васець садзяць ды Бога просяць:*
*— Памажы, Божа, ды слаўнаму мужу*
*На васець пасадзіці, на таку памалаціці.*
*А ў свірні ўсё насыпіста,*
*А ў млыні ўсё намеліста,*
*А ў дзяжы ўсё падходзіста,*
*А ў пячы ўсё падросціста...*

Дзяўчаты рабілі «кузьмінкі-вячоркі» як пярэдадзень будучых піліпаўскіх. Абыходзілі вёску, збіралі стравы, рыхтавалі хлопцам пачастунак: «Хопіць дзеўкам чужое піва варыць, трэба сваё пачынаць». Яны былі ў гэты дзень галоўнымі гаспадынямі ў сваіх хатах. Кузьмінкі прадаўжаліся да ранку. Хлопцы часам кралі курэй, да чаго гаспадары адносіліся спакойна: калі і сварыліся, дык толькі для прыліку. На кузьмінкі рабілі ляльку-нябожчыка, як маладога хлопца, з якога парадыйна выходзілі замуж дзяўчаты. Жарты, скокі, песні, прыпеўкі гучалі на кузьмінках цэлую ноч.

Самым папулярным быў карагод, у час якога дзяўчаты і хлопцы ў цэнтры круга папераменна выбіралі таго, з кім цалаваліся, а карагод-кола спяваў:

*Падушачка, падушачка,*
*Мая пухавая,*
*Маладая маладзічка,*
*Мая маладая.*
*Каго люблю, каго люблю,*
*Таго пацалую,*
*Пухавую падушачку*
*Таму падарую.*

**16** (чацвер). **Ун.** *Мацвея, апостала-евангеліста.*

**17** (пятніца). **Народны каляндар.** *Міхайлаўскія (Міхальскія, Міхайліны, Асеннія) Дзяды.* Адзначаюцца на Століншчыне ў пятніцу перад днём Міхаіла.

**20** (панядзелак). **Ун.** *Перадсвяцце Уваходу ў святыню Багародзіцы.*

**21** (аўторак). **Ун.** *Уваход у Святыню найсвяцейшай Багародзіцы.*

**Народны каляндар.** *Міхайла-архайла. Міхайлаў дзень,* з якога зіма марозы куе: «Прыехаў Міхайла на белым кані», «Калі Міхайла Кузьмадзям'янаў шлях парушыць, не чакай яго да зімовага Міколы», «Што на Міхайла, то і на Міколу», «На Міхайла шэрае сукно цягнецца ў вакно». На Міхайла, калі навapана піва і закончана асноўная праца, хадзілі ў госці з хаты ў хату, пакуль хапала сіл.

**24** (пятніца). **Народны каляндар.** *Хведар Студзянец.* «На Хведара Студзіта зямля сярдзіта», «Хведаравы вятры галоднымі ваўкамі выюць», «На Студзянца стужа што ні дзень, то горша», «Хведар — не Хвядора — студзіць без разбору», «Хведар сярдзіты — студзіць і марозіць».

**25** (субота). **Ун.** *Адданне свята ўваходу Багародзіцы ў Святыню.*

**26** (нядзеля). **Кат.** *Свята Езуса Караля.*

**27** (панядзелак). **Народны каляндар.** *Піліп, Запусты, Загавіны* — пярэдадзень Піліпаўкі: «Пуста месца Запусты, пусці, Божа, куцейку», «Як залезе Піліп, то і ў Пятро не выганіш», «Піліп дзяцей апранае». Рыхталіся да Піліпаўскіх вячорак, клікалі бабупупарэзніцу ў госці. Канчалася вялікая Вясельніца.

**28** (аўторак). **Народны каляндар.** *Піліпаўка, Піліпаўскі калядны пост* — шасцітыднёвая пара доўгіх хатніх талок, вячорак, зборняў да поснай куцці 6 студзеня («У Піліпаўку дзень да палудня», «Як у Піліпаўку навісь на дрэве, то будзе ўраджай на хлеб»). Не елі скаромнага, дзяўчаты ладзілі ў складчыну вячоркі, запрашалі музыкаў, танцавалі, спявалі доўгія, працяжныя піліпаўскія песні павучальнага характару.

**30** (чацвер). **Народны каляндар.** *Андрэй,* прысвятак. У гэты дзень варажылі: сыпалі пад падушку ячмень і прасілі святога: «Святы Андрэю, я ячмень сею, дай жа ты мне знаць, з кім я буду жаць». Прысвятак пакінуў нам і такую прыказку: «Андрэй, не дурэй, не дзяры сарочкі, не ты праў, не ты ткаў і не твае дочкі».

**Вядуць: народны каляндар — Васіль ЛІЦВІНКА; царкоўны каляндар — Ірына КРЭНЬ.**

## І смех і грэх

*Творчасць нашых чытачоў*

### Мая эпітафія

Што нястала мяне,
Не кажыце ў скрусе.
Я застаўся ў сынох
І ў зямлі Беларусі.

Мову продкаў сваіх
Як умеў, шанаваў.
Я не ў крыўдзе на тых,
Хто мяне паплакаў.

Бог — усім ім суддзя,
Хто расеяў мой род
І духоўна знішчаў
Наш ліцвінскі народ.

Мне шкада вас усіх,
Хто спакой тут знайшоў.
Вунь іх колькі такіх
Абруселых крыжоў.

**Мікола ЛАВІЦКІ.**
г.Менск.

### *Пачутае «У Лявона»*

**Дождж і ападкі**

— Можа па грыбы паедзем? Ці не чуў ты — якое заўтра надвор'е?
— І не збірайся — зрана дождж, а па абедзе — ападкі.

**Новы фільм?**

— Ты была ў кінатэатры?
— Была!
— І што там паказваюць?..
— Пустую залу...

**Дыплом не памагае**

— Ты шукаеш працу?
— Шукаю...
— А якая ў цябе прафесія?
— Дыпламаваны рацыяналізатар...
— Няўжо з такім дыпломам цяжка ўладкавацца?
— Усе патрабуюць рацыяналізацыі... — дыпломы не патрэбныя.

**Майстэрства кампрамісу**

— Гэта вы павесілі абвестку, што шынку «У Лявона» патрэбныя на працу... сябры партыі Кампрамісаў?
— Так, мы...
— Але чаму запрашаеце менавіта сяброў гэтай партыі?
— А вам гэта навошта?
— Кампраміс, як ведаеце — уменне дзяліць торт так, каб кожны падумаў, што менавіта яму адрэзалі большы кавалак...

### *Пароды*

*Георгій ЮРЧАНКА*

**Не перашкаджайце**

*Іду —*
*і не найдуся.*
*Бягу —*
*і не набягуся.*
*..................*
*Даспявае любая*
*на руках.*

**Мікола Трафімчук.**

Іду на ўсход — не найдуся,
нязбыўна трачу паварот.
Бягу назад — не дабягуся,
таму імкну наадварот.

Нібы анёл, увысь лятуся,
дзе буйна свецяць крутаверць.
А прызямляюся — любуся
На шыю меціць. Каб даспець.

Пачну пісаць — не напішуся,
бярэ нясцерп за цэлы свет.
Сняданак з'ем — не наядуся,
гляджуся квапна на абед.

Хвала сябрам! — на тым стаюся
не дзень, не два — каторы год.
Пасля спаткання з імі сплюся
ды зноў чакаюся прыгод.

### *Думай!*

**Першы закон Чызхалма:**
Усё, што можа сапсавацца, — псуецца.

**Наступствы (Такім чынам):**
Усё, што не можа псавацца, — псуецца таксама.

*(Працяг будзе.)*

### *Прэса-куламеса*

**На свеце ўсякае бывае...**

Все присутствующие смогли ознакомиться с экспозицией, посвященной жизни и творчеству Яниса Райниса; были представлены периодические и печатные издания, в которых он публиковал переводы с белорусского языка произведений Рыгора Бородулина, Максима Богдановича.

***«Вечерний Минск», 11.10.1995 г.***

Як сказаў наш класік: «Можа і праўда, свет жа вялік». Хацелася б толькі высветліць, па-першае, няўжо перыядычныя выданні не адносяцца да друкаваных, а, па-другое, як была арганізавана дастаўка для перакладаў Я.Райнісу твораў Р.Барадуліна, які прыйшоў на свет праз шэсць гадоў пасля таго, як латышскі паэт пакінуў нашу грэшную зямлю.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 556[illegible]

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 45[illegible] паасобнікаў.
Падпісана ў друк 30.10.1995 г. у 15 гадзін.